# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 32 (1276) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 10 ЖНІЎНЯ 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.




*Выезд нявесты з „Вясенняй кампазіцыі“.*

# „Харошкі“

Пяць гадоў назад „Харошкі“ ўварваліся ў мастацкае жыццё Беларусі з такой жа імклівасцю, з якой сёння артысты ансамбля з'яўляюцца на сцэне ў польках і карагодах. Яны адкрылі гледачу, перш за ўсё беларускаму, напаўзабыты, але надзвычай багаты і непаўторны свет народнага танца. І зрабілі гэта так па-мастацку дасканала, так высокапрафесійна, што авацыі спадарожнічалі кожнаму іх канцэрту — у рэспубліцы, у к[illegible]не, за мяжой.

Сёлета калектыў паказаў сваю новую праграму. Ах, якое гэта свята душы! Вось рассоўваецца заслона і з'яўляюцца музыкі. Паважныя вусатыя дзядзькі ў вышываных сарочках з багатымі паясамі, у брылях. І цёткі — іх строі не паўтараюцца, бо ў кожнай свой густ, свае ўяўленні аб прыгажосці. Музыкі бяруцца за інструменты, і мелодыя абуджае ўспаміны пра нешта даўняе. Гучыць ліра і басэтля, гудок і дудка, цымбалы і жалейка, скрыпка і гармонік, саломка і бубен... А калі дзяўчаты і хлопцы пачынаюць танцаваць „Кросны“, то адзін з музыкаў час ад часу паляпвае дзвюма дошчачкамі. Ну якраз, як бёрды стукаюць у кроснах!

Пасля канцэртаў, у гутарцы з мастацкім кіраўніком ансамбля Валянцінай Гаявой, я даведаюся, што танец „Кросны“ арыгінальны нават па кампазіцыі. Ён увесь пабудаваны на квадратах, бо і самі кросны, і тканіна, і беларускі арнамент маюць у аснове гэтую геаметрычную фігуру. Але, паверце, захапленне ад танца я мела і без тлумачэнняў. Такая імклівасць, адточанасць рухаў і адухоўленасць выканання разварушаць пачуцці любога гледача.

Пачынаецца „Вясенняя кампазіцыя“, і зала нямее. Такімі гордымі царэўнамі ці князёўнамі выплываюць на сцэну дзяўчаты. Іх доўгія аднатонныя сукенкі амаль не маюць аздоб, толькі галовы і косы шчодра ўбраны кветкамі. Быццам у балеце, танцоркі ідуць на пальчыках, яны нейкія суцішаныя, заглыбленыя ў свае думкі. Вясна ў душы кожнай з іх абуджае трывогі і спадзяванні, чаканне шчасця, змен у жыцці. І каб даць выйсце эмоцыям, дзяўчаты ідуць за вёску, на ўзгорак ці палянку і гукаюць вясну. Старадаўні абрад існуе, мусіць, з язычаскіх часоў. Дзе-нідзе ён захаваўся і па сёння. Летась быў зняты, напрыклад, дакументальны фільм „Галасы стагоддзяў“. І я бачыла вясновыя песні і танцы вясковых жанчын. Характэрна, што дзеля гэтага яны адасабляюцца ад мужчын, выбіраюць зацішнае месца. І стрыманыя, спакойныя ў паўсядзённасці, у абрадавых гульнях бурна праяўляюць свае пачуцці. Стылізавана перанесеныя на сцэну „гуканне вясны“ і „абрад куста“ кранаюць паэтычнасцю, цнатлівасцю і чысцінёй дзявочых мар, лірычным веснавым настроем.



*Валянціна Галубенка і Фёдар Балабайка.*

Выскачылі на сцэну валачобнікі, і нельга стрымаць усмешку. Увесь танец — як разгорнутая жанравая карцінка. Вясёлыя хлопцы ідуць славіць святых Міколу і Юрыя, зычыць людзям дастатку. Яны ведаюць, што ўдзячныя гаспадары шчодра надзеляць іх прысмакамі. Таму так старанна выбіраюць торбу, куды складуць сала і каўбасы. Толькі „запявала“ ўзяўся мераць пядзямі вялізны мех, як з'явіўся недарэка Халімон. Адна нага абута ў лапаць, другая — у бот. І пояс недзе згубіў. Спявае абы-што. Пачаў „запявала“ ганяць яго... Зразумела, у пераказе ўсякі досціп, жарт шмат губляе. Але той з чытачоў, хто хоць калі бачыў выступленне „Харошак“, хай на хвілінку ўявяць сабе Фёдара Балабайку, заслужанага артыста БССР, не запомніць яго яны проста не маглі, і тады „Валачобнікі“ для іх „загучаць“, бо „запявала“, вядома ж, Балабайка.

Між іншым, тут ёсць адзін нюанс. Танец „Валачобнікі“ поўнасцю створаны Валянцінай Гаявой. У рэальным жыцці валачобнікі толькі граюць і спяваюць. Але талент харэографа прымушае нас забыць пра гэта. На традыцыйныя валачобныя мелодыі яна накладвае такі дакладны малюнак паводзін хлапечай кампаніі, што „спевакі“ здаюцца нам даўнімі знаёмымі. Тут у кожнага свой характар, і ён можа выказаць яго ў танцы. „Валачобнікі“ шануюць адзін аднаго, але пры нагодзе і пажартуюць няблага. Жывыя людзі, праўдзівыя характары, пералівы ўзаемаадносін — і ўсяго толькі адзін танец!

Ці не гэта найбольш уражвае ў „Харошках“? Сродкамі харэаграфіі яны расказваюць пра беларускі народ, паказваюць рысы нацыянальнага характару. У танцах раскрываецца шчырасць, душэўная адкрытасць, спагадлівасць, тонкі гумар, жаночая цнатлівасць і мужчынская сіла... Ну, каго ж, скажам, не зачаруе такі вобраз?! І як па-майстэрску ён падаецца са сцэны! У агульным малюнку кожны выканаўца мае сваю „фарбу“, можа праявіць індывідуальнасць. Абаяльныя, чароўныя ўсмешкі дораць дзяўчаты сваім партнёрам, а то і гледачам. Гарэзлівасць

(Працяг на стар. 2)

# IX З'ЕЗД БГКТ

# НАША СІЛА

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ ПРАДСТАЎНІКА АДМІНІСТРАЦЫЙНАГА АДДЗЕЛА ЦК ПАРП ТАВ. КАЗІМЕЖА МАМАКА)**

У сваім выступленні **К. Мамак** засяродзіў увагу прысутных на вядучую ролю ў далейшым развіцці нашага грамадства Пастаноў, якія прыняў VIII з'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Пры гэтым, між іншым, падкрэсліў, што ажыццяўляючы іх неабходна ствараць умовы для ўтрымання высокіх тэмпаў развіцця нашай краіны, пераадольваць цяжкасці, якія штораз часцей кранаюць нас, вызначаць адпаведнае месца кожнаму калектыву людзей, кожнаму з нас у змаганні за далейшы поступ і развіццё. Мы павінны ўмець таксама самастойна перамагаць у тых складаных абставінах, якія абумоўлены знешняй сітуацыяй у сусветнай эканоміцы. Справа ў тым, каб мы маглі развівацца далей, каб нас не спіхнулі з добрага месца сярод самых развітых краін свету — месца, якое здабыта намаганнямі ўсяго народу.

Прамоўца прыгадаў выказванне I сакратара ЦК ПАРП тав. Э. Герка на адной з сустрэчаў з гарнякамі пра тое, што „ўсё ў нашых руках. Многа яшчэ маем зрабіць, будзем вызначаць новыя заданні, вырашаць новыя праблемы, каб удасканальваць наша жыццё і ўмовы нашай працы, каб Польшча мацнела, а польскаму народу жылося ўсё лепш“. Гэтыя словы, падкрэсліў К. Мамак, былі накіраваны да ўсіх грамадзян нашай Айчыны, да кожнага з нас.



— З прыемнасцю я тут заўважу, што польскія грамадзяне беларускай нацыянальнасці заўсёды актыўна ўдзельнічалі ў ажыццяўленні заданняў, якія ставіла Партыя і Дзяржава, — сказаў К. Мамак. — Агульнавядомы патрыятызм і інтэрнацыяналізм польскіх грамадзян беларускай нацыянальнасці. У штодзённым жыцці гэта выяўлялася ў іх ахвярнай працы.

Дзякуючы падтрымцы партыі і сталай дапамозе народнай улады польскія грамадзяне нацыянальнасці, якую вы прадстаўляеце, маюць умовы культываваць нацыянальную мову і культуру. Грамадскія пачыны, якія вы ўздымаеце, істотна спрыяюць паляпшэнню жыцця, а культурная дзейнасць выдзяляе вас у асяроддзі. Блізкая вашым сэрцам, як кожнаму польскаму патрыёту, яе форма і змест. Таму павінны вы яшчэ болей умацоўваць яе сацыялістычны характар. З прызнан-

(Працяг на стар. 2)

## Без задняй думкі

### КАЗЫТАННЕ ПЯТАК

Бадай што ў кожным народзе вельмі высока цэніцца лячэбна-тэрапеўтычная функцыя смеху. Гэта ж трэба сказаць і пра нас, беларусаў, пра нашу даўнюю традыцыйную любоў да вясёлага, дасціпнага, насмешлівага слова — любоў, што стала рысай нашага нацыянальнага характару і, натуральна, неад'емнай якасцю беларускага фальклору і літаратуры.

І ўсё ж у цэлым наша літаратура як бы пачала паступова траціць гэтую зайздросную здольнасць — смяяцца. Усё радзей і радзей спатыкаеш і адчуваеш ачышчальную сілу смеху ў кнігах прозы і паэзіі, на старонках часопісаў і газет.

Па тым, якія адносіны ў нас да сатырычнай літаратурнай творчасці, можна было б меркаваць, што ў нашым грамадстве ўжо няма нявырашаных сацыяльных, маральна-этычных і іншых праблем, што ў нас ужо няма чаго і каго падвяргаць „ювеналаву бічу“, няма ўжо з чаго і з каго смяяцца.

Нашай сатырычна-гумарыстычнай літаратуры не хапае болю, горычы. Смех без болю, без горычы — гэта смех для паляпшэння стрававання, гэта — тое казытанне пятак перад сном, якое прапаноўвала Каробачка Чычыкаву — каб хутчэй і мацней заснуць. Гэтакі смех многім даспадобы, яго многія і любяць, і цэняць, і лічаць, што іншага і не трэба.

Але ж найвышэй мы цэнім не той смех, які забаўляе, а той, які прымушае задумацца, ад якога забаліць, ад якога захочацца дапамагчы чалавеку стаць чалавекам.

*(З артыкула Ніла Гілевіча ў „ЛіМ“е).*

## З беларускага друку

### ВЫРАТАВАЛЬНЫ ХОЛАД

Урачы чацвёртай мінскай клінічнай бальніцы пры лячэнні органаў слыху, органаў нюху, верхніх дыхальных шляхоў карыстаюцца замест скальпеля холадам. У клініцы, якой кіруе доктар медыцынскіх навук В. Гапановіч, з дапамогай спецыяльных інструментаў, выробленых на мінскіх прадпрыемствах, выдаляюць міндаліны, вылечваюць рыніты, фарынгіты і некаторыя іншыя захворванні, якія цяжка паддаюцца лячэнню. Пры ўздзеянні нізкіх тэмператур хворая тканка крысталізуецца і потым „выдаляецца“ самім арганізмам.

### ПІЯНІНА І ГІТАРЫ

У 18 краін свету пастаўляе прадукцыю Барысаўская фабрыка піяніна. Акрамя іх, тут выпускаюцца і электрагітары. Больш за 30 тысяч іх будзе выпушчана ў 10-й пяцігодцы.

### КАЛЯНДАР

**595 гадоў назад**

14.8.1385 заключана Крэўская унія паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польскім каралеўствам.

**80 гадоў назад**

15.8.1900 нар. Я. Бжэхва, польскі паэт.

**35 гадоў назад**

14.8.1945 капітуліравала Японія.

**25 гадоў назад**

12.8.1955 пам. Т. Ман, нямецкі пісьменнік.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa—Książka—Ruch", Kombinat Wydawniczo-Kolportażowy w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 104 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch". Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 23, 00-950 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.
B.Z.Graf. Zam. 1194. Nakład 6.500 I-3.



(Працяг са стар. 1)

# „Харошкі“

так і распірае хлопцаў, ад іх скокаў, здаецца, угінаецца падлога.

Традыцыйна народнае мастацтва (а менавіта яго паклалі ў аснову сваёй творчасці „Харошкі“) звязана з вёскай. Але вось выводзяць яны на сцэну „Местачковы вальс“, і ад яго вее нечым шчымліва родным. Своеасаблівая настальгія па нядаўна мінуламу, моднае „рэтра“. Вядома ж, дагэтуль у розных мясцовасцях па-рознаму танцуюць полькі, вальсы, кадрылі. Самародкі часам так выштукуюць нейкае каленца, што дыпламаванага балетмайстра ўразяць. За падобнымі знаходкамі Валянціна Іванаўна згодна на край свету пешша ісці. Бо з іх потым народзіцца адмысловы сцэнічны нумар. Найчасцей удзельнікі ансамбля (а яны ўсе аднадумцы, бясконца закаханыя ў сваю справу) робяць адкрыцці... на вяселлях. І нясуць у калектыў новыя мелодыі, песні ці рухі. Гэта ўсё вернецца потым людзям, па-мастацку ўзбагачанае.

Святочнасць выступленню надаюць адмысловыя касцюмы, створаныя па эскізах Ларысы Рулёвай, выхаванкі Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Яе ж работа — распісныя крэселцы і лаўкі, на якіх сядзяць музыкі. Малюнкі паўтараюць кветкі і букеты славутых палескіх куфраў.

Састаў ансамбля ў асноўным стабільны. І цяжка паверыць, што танцораў усяго 20. Яны такія дынамічныя, што шэсць пар запаўняюць прастору самай вялікай сцэны. У красавіку „Харошкі“ выступалі ў Маскве на самых славутых сцэнах — у канцэртных залах „Расія“ і імя Чайкоўскага. Поспех мелі выключны! І нават спецыялісты не верылі, што ўражанне масавасці ствараецца імклівым тэмпам выканання. У маі-чэрвені калектыў гастраляваў на Украіне. Потым паехаў у Маскву, каб адарыць сваім мастацтвам гасцей Алімпіяды-80. У кастрычніку „Харошак“ сустрэне Бельгія.

**Валянціна Трыгубовіч**
**Фота Ч. Мезіна**



*Музыкі.*

(Працяг са стар. 1)

# Наша сіла

нем трэба заўважыць, што ваша культурная дзейнасць уносіць каштоўны ўклад у агульнанародную скарбніцу польскай культуры, спрыяе ўмацоўванню дружбы і братэрства паміж людзьмі, умацоўвае адзінства нашага народу. Яно, як падкрэсліў вялікі Ленін, павінна абапірацца „на самым поўным даверы, на выразным разуменні брацкай салідарнасці“. Варта таксама прыгадаць, што ленінская тэорыя і практыка ў нацыянальных справах і па сённяшні дзень з'яўляецца дзейсным сродкам у змаганні за ўмацаванне адзінства і салідарнасці сіл сацыялізму, дэмакратыі, поступу і міру.

Асноўнае звяно вашай дзейнасці — гэта гурткі Таварыства. У іх засяроджваецца галоўная статутовая дзейнасць. Там нараджаюцца ініцыятывы самадзейнага мастацкага руху і яго форм. Там таксама папулярызуецца чытацтва беларускіх кніг і часопісаў. У гуртках вашага Таварыства паўстае праграма працы вашых святліц і клубаў, якія маюць спрыяльныя ўмовы для культывавання народных абрадаў і культурных традыцый.

Неадлучная частка вашага грамадска-культурнага жыцця — гэта папулярны часопіс „Ніва“. Як дагэтуль яна добра спадарожнічае вам у жыцці і працы, пабуджае да дзеяння, паказвае ініцыятывы і канкрэтных людзей, што працуюць для справы нацыянальнай культуры і мовы. Хачу таксама падкрэсліць, што „Ніва“ належным чынам выконвае ідэйныя заданні, якія наша Партыя даручыла сродкам масавай інфармацыі.

Грамадзяне дэлегаты, ваш сённяшні з'езд вызначыць напрамкі далейшай дзейнасці Таварыства. Яны будуць сфармуляваны ў пастановах, якія прымеце. Гэта будуць заданні на бліжэйшыя чатыры гады, яны сцісла, з'яднаюцца з ажыццяўленнем праграмы развіцця супольнай нашай Айчыны — Польскай Народнай Рэспублікі. Няхай мне будзе дазволена выказаць перакананне, што так як дагэтуль, разам здзяйсняць будзем пастановы нашай Партыі. З еднасці ў дзеянні чэрпаць будзем сілы для поўнага выканання пастаўленых заданняў перад Партыяй і ўсім народам VIII з'ездам ПАРП.

У заканчэнні выступлення К. Мамак падзякаваў за запрашэнне на з'езд і ад імя кіраўніцтва Адміністрацыйнага аддзела ЦК ПАРП выказаў дэлегатам, а праз іх усім членам і дзеячам БГКТ сардэчныя віншаванні, словы прызнання і падзякі за дагэтуляшнюю дзейнасць.

### Праз тыдзень у „Ніве“

**Войнаўка ◆ Жанчына — лепшая частка чалавецтва ◆ Трагічная раніца ◆ Неба і чалавечы лёс ◆ Званок самому сабе ◆ Цені сяброў ◆ Гародчык Цёткі Мальвіны ◆ Адкрытае пісьмо Дзядзьку Квасу ◆ Весткі з Пасечнікаў Вялікіх, Істока, Міклашэва, Крынак, Нараўкі, Піліпак, Гайнаўкі, Дубіч Царкоўных, Белак, Адрынак ◆ Калі прысніцца, што атрымаеш падарунак ◆ Чаму Кастусь ніколі не каштаваў торту ◆ Папулярная савецкая песня „Не плачь, девчонка“**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 10 VIII** — 7.00 TTR. Zajęcia wakac. sem. III. 7.20 Sem. V. 7.40 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Sport dla wszystkich. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Kino Teleranka — Mały Klaus i Duży Klaus — baśń film. 10.05 Antena. 10.30 Film poświęcony Białoruskiej SRR. 11.30 Dziennik. 11.45 Rolnicze rozmowy. 12.20 Piórkiem i węglem. 12.45 Tylko w niedzielę.

**Poniedziałek 11 VIII** — 9.00 Teleferie oraz film seryjny „Niezwykła piątka". 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 17.30 Przedmioty. 17.50 Adam Sangala — odc. I film historyczno-przygodowy TV CSRS. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Tel. T. Nyczek — Śmierć Iwana Ilicza. 21.30 Świat i Polska. 22.15 Dziennik. 22.30 Program poetycko-muzyczny.

**Wtorek 12 VIII** — 9.00 Teleferie. 15.20 Pr. dnia. 15.25 Klub Seniora. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 16.55 Klinika zdrowego człowieka. 17.20 Sonda. 17.55 Królik Bugs przedstawia — ameryk. film anim. 18.20 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Magiczny świat melodii — pr. rozr. TV CSRS. 19.30 Dziennik. 21.10 Marność nad marnościami — komedia radziecka. 21.40 Ex Libris. 22.05 Dziennik. 22.20 Lektury.

**Środa 13 VIII** — 9.00 Teleferie najmłodszych — Podróżuj z nami oraz Jana z dżungli — odc. X filmu ameryk. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 16.55 Losowanie Małego i Express Lotka. 17.05 Dom i my. 17.20 Skarbiec. 17.45 Televariete — pr. rozr. TV CSRS. 18.20 Sport. 18.50 Dobranoc. 19.00 Bractwo żelaznej szekli. 19.30 Dziennik. 20.10 Węgierski film fabularny. 22.00 Konkrety. 22.30 Dziennik. 22.45 Poglądy. 23.00 Camerata.

**Czwartek 14 VIII** — 9.00 Teleferie — Nieobozowa akcja letnia oraz film z serii Wojna planet. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.55 Poligon. 18.20 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Lekarz radzi — O ziołolecznictwie. 19.10 Turystyka i wypoczynek. 19.30 Dziennik. 20.10 Van der Valk — odc. pt. Rozgrywka — film kryminalny TV ang. 21.00 Pegaz. 21.50 Antyczny świat prof. Krawczuka. 22.20 Dziennik. 22.35 Koncerty ratuszowe — F. Janiewicz — Divertimento.

**Piątek 15 VIII** — 9.00 Kino Teleferii Najmłodszych — Przygody psa Huckelberry. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.00 Śpiewa [illegible] Lawton. 17.30 Daleko od szosy — odc. 1. pt. Prawo jazdy — film fab. TP. 18.50 Dobranoc. 19.00 Magazyn bezpieczeństwa ruchu drogowego. 19.30 Dziennik. 20.10 Studio Gama — E-81 — widowisko rozr. Wyk. I. Karel, M. Rodowicz, J. Gocławska i inni. 21.45 Planeta Ziemia. 22.15 Dziennik. 22.30 Kineskop. 23.00 Wieczór profesorów.

**Sobota 16 VIII** — 15.25 Pr. dnia. 15.30 Reportaż wojskowy. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Czary mary — cz. II — program estrad. 17.25 Sport — I liga piłkarska. 18.20 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Świat, który nie może zaginąć. Ludzie z bagien — ang. film przyr. 20.10 Pogoda dla bogaczy — cz. II odc. XX ameryk. film ser. 21.05 Blisko i daleko. 21.35 Dziennik. 21.50 Spotkanie z kompozytorem Wł. Szpilmanem. Wyk. I. Santor, I. Trojanowska, A. Majewska, E. Bem, B. Mec i inni. (ur)

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 8 VIII** — 8.35 Film ser. 9.40 Koncert. 18.55 Film ser. 21.20 Pr. estradowy.

**Sobota 9 VIII** — 8.05 Koncert. 8.40 Film ser. 12.30 Koncert. 13.45 W świecie zwierząt. [illegible] Piłka nożna. Dynamo (Tbilisi) — Szachtior [illegible]nieck). 18.55 Spektakl.

**Niedziela 10 VIII** — 8.05 Koncert. 13.00 Film fab. 16.30 Filmy anim. 17.00 Panorama międzynarodowa. 17.45 Klub podróży. 18.45 Film fab. 20.35 Koncert chóralny.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Zabawka — fr. 12—13. Wolne chwile — pol. 14—15. Inny mężczyzna, inna szansa — fr. 16—17.

**Bielsk Podl.** Po sezonie — ang. 11—12. Wspomnij mnie — radz. 13—14. Rocky — USA 15—16. Obcy — ang. 17.

**Czeremcha** Bałamut — radz. 12—13. Agnieszka idzie na śmierć — wł. 16—17.

**Czyże** Osada Gawronów — czes. Brat kata — NRD 13—17.

**Gródek** Bestia — pol. 16—17.

**Hajnówka** Ukochana żona — wł. 11. Odrażający, brudni, źli — wł. 12—15. Lipcowe spotkanie — czes. 16—17.

**Michałowo** Byliśmy tacy zakochani — wł. 12—13. Chłopiec z burzy — austral. 14—15. Adela jeszcze nie jadła kolacji — czes. 16—17.

**Mielnik** Handlarz bronią — wł. 13. Dzięki Bogu już piąta — USA 16—17.

**Milejczyce** Uśmiech — USA. Wyspa skarbów — fr. 13—17.

**Narewka** Bądź błogosławiona — bułg. Werdykt — fr. 13—17.

**Narew** Panny z Wilka — pol. Nie ma dymu bez ognia — fr. 13—17.

**Nurzec** Bułeczka — pol. 12—13. Tanase Scatiu — rum. 14—15. Autostopowicz — czes. 16—17.

**Orla** Na wielkiej rzece — czes. Tortury — fr. 13—17.

**Rajsk** Klincz — pol. Ofiara namiętności — pol. 13—17.

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### ПЕРАДАВЫЯ

У Нараўкаўскай гміне жывуць працавітыя і дбайныя гаспадары, якія высока цэняць гадоўлю малочнага быдла. У наваляўкоўскую злеўню малака кожны дзень прывозяць малако сяляне з шырокай акругі — дзевяці вёсак і прысёлкаў: Новага і Старога Ляўкова, Капітаншчыны, Ахрымаў, Бернацкага Мосту, Сушчага Барка, Лазовага, Мінкоўкі, Навін і Кас'янаў. Разам 150 дастаўцаў. У суме збіраецца каля 3000 літраў сырадою. Гэты немалы малочны струмень плыве штодня на гайнаўскі маслазавод.

Гаспадары маюць тут выдатныя магчымасці развіваць і пашыраць гадоўлю. Трава на лугах і сенажацях над Нарвай і Нараўкай вырастае цалкам прылюдная, калі падсыпаць яе яшчэ мінеральнымі ўгнаеннямі.

Найбольш малака дастаўляюць на зліўны пункт Міхал Баканач, Мікалай Болбат і Васіль Грыгарук — усе яны з Новага Ляўкова, Софія Пякарская са Старога Ляўкова, Мікалай Карпюк з Капітаншчыны, Мікалай Каролька з Кас'янаў, Мікалай Ігнацюк з Новага Ляўкова і іншыя гаспадары. Гэтыя гаспадары спецыялізуюцца перш за ўсё ў гадоўлі малочных кароў і ўвогуле быдла. Маюць яны ўласныя сельскагаспадарчыя машыны, у тым ліку таксама трактары. Дзякуючы машынам жывуць яны лягчэй і выгадней. Маюць адпаведныя, новага тыпу аборы. Некаторыя з іх, а будуць гэта пераважна маладыя жывёлаводы, прыдбалі сабе электрадаілкі. Напрыклад, Мікалай Карпюк і Мікалай Каролька. У іх механізаваныя прасторныя аборы. Першы з іх гадуе 18 штук быдла, у тым ліку 9 дойных кароў і другі — 13 штук рагатай жывёлы, у тым ліку 6 дойных кароў. Передавыя дастаўцы Ляўкоўскай акругі гадуюць пераважна 8—9 дойных кароў, а ўжо сама менш 5—6. У іх свае пашы для ўсяго статка. На зіму яны нарыхтоўваюць сочныя кармы — квашанкі. Сеюць яны кукурузу і паіржышчавыя культуры. У спамянутых земляробаў з кожным годам павялічваецца сельскагаспадарчая прадукцыя.

У мінулым годзе Міхал Баканач прадаў дзяржаве 20 тысяч літраў малака. Усіх сельскагаспадарчых пладоў прадаў ён на суму 184 тысяч злотых. Мікалай Болбат прадаў 21 тысячу літраў малака і ўсіх сельскагаспадарчых пладоў на суму 236 тысяч злотых. Мікалай Ігнацюк, таксама як папярэднія наваляўкоўцы, прадаў 12 тысяч літраў малака і ўсіх сельскагаспадарчых пладоў на суму 132 тысячы злотых.

### ФАБРЫКА АХАЛАДЖАЛЬНЫХ НАПІТКАЎ

Фабрыка ахаладжальных напіткаў і разлеўня піва ў Кляшчэлях выпускае 12 тысяч бутэлек газіраваных самых розных напіткаў у суткі. У даны перыяд найбольш аранжады, квік-колы і фруктону. Выпускае яна таксама мінералізаваную ваду з кляшчэлеўскіх, значыць, мясцовых крыніц. Напіткамі фабрыка ГС абяспечвае вясковыя спажывецкія крамы, кіёскі, клубы і шэсць гаспадарчых адзінак, у тым ліку СКР, ПОМ, „Водроль“, „Бэтэску“ і іншыя.

На фабрыцы працуе 11 асоб, амаль усе жанчыны. Гэта зладжаны і дружны калектыў. Усе работнікі працуюць аддана. Усе зжыліся з фабрыкай. Усе перапрацавалі ўжо па звыш 10 гадоў. Калі б трэба было падаць прозвішчы добрых работнікаў, дык спатрэбілася б пералічыць усіх. Кіраўніком фабрыкі з'яўляецца Яраслаў Герасімюк.

Самы разгар працы на фабрыцы прыпадае на май, чэрвень, ліпень і жнівень. Тады прадпрыемства працуе на дзве змены і заказаў на напіткі найбольш. Асабліва ўжо сыплюцца заказы ва ўсмажлівыя дні. Ажно не заўсёды можна з імі справіцца — сродкі транспарту тыя ж самыя, што і круглы год. А напіткаў давай чым больш. Вядома, лета — самая гарачая пара. Гэта пара найбольш напружанай працы ў полі і на сенажаці.

### НОВАЕ ВУЛІЧНАЕ ЭЛЕКТРААСВЯТЛЕННЕ

Гмінныя ўлады ў Дубічах Царкоўных задбалі пра рамонт электраўстановак вулічнага асвятлення ў вёсках Вілюкі і Стары Корнін. У мінулым годзе ртутныя электралямпачкі падключылі ў Вілюках і сёлета — у Старым Корніне. Пасля перабудовы электрычнага асвятлення ў спамянутых вёсках вечарам і ўночы на тутэйшых вуліцах стала значна відней. **(ця)**



**Дарожныя партрэты.** Бабулі з Рыбалаў. Фота В. Рудчыка.

### КОЛЬКІ ЧЫТАЮЦЬ?

У раёне абслугоўвання паштовай установы ў Кляшчэлях дзесяць вёсак: Кляшчэлі, Дабрывада, Грузка, Дашы, Сакі, Сухавольцы, Пятроўшчына, Косная, Залешаны і Жукі. Жыхары тутэйшых вёсак найбольш чытаюць наступных газет і часопісаў: „Гадоўля быдла“ — 216 экземпляраў, „Газета вспулчэсна“ — 160 экз., „Аграхімія“ — 113 экз., „Громада-Рольнік польскі“ — 110 экз., „Хлопска дрога“ — 65 экз., „Ніва“ — 58 экз., „Пшыяцюлка“ — 45 экз., „Рольнік-спулдзельца“ — 38 экз. і „Гаспадыня“ — 33 экземпляры.

### ПЛІСКІ І ЗУБРОЎКА

21 ліпеня бягучага года мы заглянулі на пункт скупкі ляснога руна ў вёску Вілюкі ў Дубіцкай гміне. Тут трэці год вядзе яго Ніна Саевіч. Ад 3 да 21 ліпеня грыбнікі з Вілюкоў, Войнаўкі, Палічнай, Вярстка, Бобінкі, Старыны і Белай Стражы прадалі звыш 3500 кілаграмаў адборных плісак (за 1 кг плісак плоціцца па 40 злотых). У адзін дзень, 15 ліпеня, грыбнікі прадалі рэкордную колькасць плісак — 540 кілаграмаў. Апрача таго, купляе яна сушаную траву-зуброўку (за 1 кг яе плоціцца па 100 злотых).

**(яц)**

## Гарадскія цёткі Мальвіны

### ЁН МНЕ НЕ ПАРА

*Сустрэла хлопца раз на раздарожжы,*
*Быў малады, вясёлы і прыгожы.*
*Запаў глыбока ў сэрца яго позірк,*
*Што не адну разяву заварожыў.*
*У колькасці разяў не разабрацца —*
*Хвалілася разявамі ўсё „цаца“. —*
*Я думала за праўду йдзе змагацца,*
*А ён у бар спяшаўся лячыць каца.*
*Бацька — дырэктар мае мураванку,*
*На Ф'ята грошай даў і на гулянку.*
*Касцюмы — кляса, „вчасы“ за граніцай,*
*Аб якіх шэрым людзям нат не сніцца.*
*І хабар даў, каб сын стаў інжынерам.*
*І перад сынам ўсюды насцеж дзверы.*
*Цяпер ён шышка, сам бярэ хаборы*
*І з быле-кім ён нават не гаворыць.*
*Аб дзеячу грамадскім гаварыў:*
*Дурны, бо бедны, бедны — бо дурны,*
*З дзяўчат-работніц кпіў сабе без меры,*
*Што як у цётаў нашыя манеры.*
*Прапанаваў ён мне „пайсці на хату“,*
*Хоць было ясна, што амаль жанаты.*
*І ажаніўся ён з бадыляжуўнай*
*Па правілу: кажух знайшоў кажуха.*
*Ён мне не пара, я ім пагарджаю,*
*Хаця прыгожыя ён вочы мае.*

**Цётка Мальвіна**

P.S. Кажух шукае кажуха, сукман сукмана, лахман лахмана. Гэтую прыказку я чула ў вёсцы Відава. Ц. М.

(Працяг са стар. 3)

## ХВОЯ

браты, сёстры, дзеці і іншыя родзічы. Задумаюцца людзі над сваёй доляй горкай, над кароткацечным жыццём чалавечым і самі слёзы на вочы набягаюць. І так ужо павялося: жаласліва грае скрыпка, а вакол яе наўзрыд плачуць людзі.

Доўга іграў так той музыка і абрыдла яму ўвесь час толькі людскія слёзы бачыць ды пахавальныя галашэнні слухаць. Узяўся ён весялейшыя мелодыі граць. Але як толькі наважыцца музыка жвавую кадрылю ўрэзаць ці хвацкую польку закаціць, скрыпка раптам глухне або струны пад смыком, быццам павуцінне, рвуцца. І аднойчы, калі ён так вясёлую мелодыю зайграць намагаўся, а са скрыпкі ўсё сумнае гранне чутное было, узлаваўся ён не на жарт ды як шпарне інструментам аб вугал хаты, аж чалавечы натоўп войкнуў. Енкнула тая скрыпка і рассыпалася на драбнюсенькія трэскі.

Глянуў музыка на разбітую скрыпку і яму шкада стала яе. Нагнуўся ён пазбіраць параскіданыя абломкі, ажно чуе, што рукі непаслухмянымі становяцца. Глянуў — яны ж быццам сухія голькі на той хвоі! Так і застаўся музыка назаўсёды бязрукім.

У Бярэзіне на Ваневе ніколі больш такая нязвыклая хвоя не вырасла. Сярод ванеўцаў захавалася пра яе толькі гэтая легенда.

**М. Гайдук**

### ПАСЛЯ НАШАЙ КРЫТЫКІ

Можа памятаюць нашы чытачы, як крытыкавалі мы вуліцу ў вёсцы Карыціска ў Дубіцкай гміне. Поўна было тут балота і калдобінаў. А цяпер? Тут палажылі асфальт. За цэнтральныя фінансавыя сродкі. Цяпер засталося толькі жыхарам самой вёскі дзе-нідзе пабудаваць новыя платы, брамы, паставіць лавачкі. Старыя і занядбаныя платы ўжо зусім не пасуюць да новай вуліцы. Жыхары Карыціска маюць і яшчэ адну выгоду. Гэта добрыя даязныя дарогі да палёў і на сенажаці. Дагэтуль было з імі па-рознаму — былі месцы зусім непраезныя.

*

У бягучым годзе ўрэшце салідна адрамантавалі асфальт на дарозе з Дубіч Царкоўных у Чэхі Арлянскія. Гэтым трэба ганарыцца. Гэта праўда. Але тут жа на дарозе рабочыя пакінулі старыя ўхабіны. За чыгуначным пераездам, нейкіх 100—150 метраў, глыбокая яма пасярэдзіне асфальту. Для тых, хто выбраўся сюды ўпершыню і асабліва ўначы, язда машынай, матацыклам або маталолерам можа закончыцца няшчасцем.

Хвалім раён публічных дарог у Бельску за рамонт разбітага ўшчэнт адрэзка асфальту, але прыпамінаем, што і тыя „лічаныя“ дзіркі ў асфальце трэба паліквідаваць. **(яц)**

### БУГ У АГНІ

## ЗАРАСЛО ЎСЁ ЛЕСАМ...

Чапляючыся за паскручваныя жалезныя пруты, пераскокваючы па абломках разбітых сцен, мы ледзь выбраліся з развалін дота „Быстры“, у якім трое сутак абараняліся савецкія воіны пад камандаваннем малодшага лейтэнанта Івана Шыбакова.

— Паглядзіце, — крыху аддыхаўшыся, сказаў Пятро Плаксей. — Бачыце, там яшчэ граната ляжыць.



*Недзе тут была наша кухня, — кажа Пятро Плаксей.*

## Якія мы людзі

### ЦАЛАВАЦЬ ЦІ НЕ ЦАЛАВАЦЬ

Прачытаўшы заметку Пастаяннага Чытача п.з. „Цалаваць ці не цалаваць“ і адгалоскі на гэту тэму, дайшоў я да вываду, што і маё слоўца „Ніва“ не адкіне. Вось, з майго пункту гледжання, Пастаянны Чытач паставіў пад дыскусію дзве пары рук. Адну — гарадскую, другую — вясковую. Гарадская рука беленькая, выцацканая і, вядома, высокаасвечанай асобы. І вясковая, як Дзед Кастусь ацаніў, не зусім чыстая (а можа ў час пасадкі бульбы?).

Я згодны з Агатай: мы, мужчыны, спрытней цалуем рукі гарадскіх жанчын. І наадварот, нашы жанчыны хутчэй падносяць сваю ручку пад нос мецэнасу, доктару, магістру, чым дзядзьку з вёскі. Бо ці ж ён патрапіць яе ўшанаваць? А калі так, то як гэтую пашану ўспрыме жанчына? Прыклад такой пашаны прывяла Агата, калі яе руку пацалаваў нейкі паэт: быццам жабу пасадзіў. А што гавАрыць пра нас, хлебаробаў?

Трапныя прыклады прывёў Васіль Петручук. Я на яго баку. Бо не ўсё золата, што блішчыць. Нам, мужчынам, нешта таксама належыцца. Прынамсі чыстая рука. Не хачу крыўдзіць тых жанчын, якія жывуць у згодзе з вадой (прашу прабачэння). А табе, паважаны Коля Панфілюк, звяртаю ўвагу, што Іуда пацалункам Ісуса Хрыста прадаў. Раю табе быць асцярожным, асабліва, калі цалуеш жонкі іншых мужчын.

Валодзя Сідарук спасылаецца на прыклад дзядоў, прадзедаў, быццам яны ніколі памылак не рабілі. А вось скажы мне, ці панскі род цалаваў руку мужыкоў? Мужыку даводзілася цалаваць рукі не толькі паніны, але і панавы. А чаму ж мы не маем быць прыкладам нашаму будучаму пакаленню? І калі закранаеш культуру, дык яна будзе вышэйшай, як мы перастанем лізаць рукі. А жанчына павінна быць аднолькава ўсім, незалежна ад таго, вясковая ці гарадская, вучоная ці менш вучоная. Гэта залежыць ад нас. Якія мы людзі, такая нам будзе і пашана.

**В. Семянюк**

(Працяг са стар. 3)

## ПРАВАЛ

дык на другі дзень нічога не памятаю. Хіба ўжо старэю. Вось і на гэты раз не ўспомніў, што жонка два разы прыходзіла ноччу з працы праверыць, ці чаго не натварыў па-п'янаму ў хаце і за кожным разам выпытвала, дзе быў чым там займаўся. І, відаць, за кожным разам я штосьці плёў аб маіх начных гастролях. Апошняя версія, якую і вы толькі што пачулі, была, безумоўна, найлепшай, але трэцяй і зусім непадобнай да дзвюх папярэдніх. Вось на гэтым і пагарэў.

Адсюль вывад: не варта, хлопцы, піць, калі галава перастае варыць.

**Піліп Саскі**

### „СУЧАСНАЯ ГАСПАДЫНЯ“ Ў КЛЯШЧЭЛЯХ...

...мае добрыя ўмовы працы. Скора ўжо будзе год, як асяродак атрымаў памяшканне ў мураваным будынку, у якім па-суседску знаходзіцца спажывецкая крама. У новым памяшканні прыбыло плошчы. Тут можна скарыстацца з кравецкіх паслуг, пазычыць талеркі, відэльцы, нажы і шклянкі на самае вялікае вяселле або на хрэсьбіны (хопіць іх для 150 асоб), аддаць вопратку ў хімчыстку (чысцяць яе ў механічнай пральні ў Гайнаўцы). У асяродку ёсць густоўна абсталяваны куточак для культурна-асветнай дзейнасці. З ёю знаёміць нас Надзя Такаюк. Асяродак дапамагае ў вядзенні вясковых сезонных дзяцінцаў. Вясной арганізаваў сярод моладзі конкурсы на тэмы: „Веды ўмацоўваюць прыязнь“ і „Алімпіяда — 80“. З узнагародамі. Было многа ўдзельнікаў і вялікае зацікаўленне. У асяродку жанчыны могуць атрымаць розныя парады на кулінарныя і кравецкія тэмы, як рацыянальна харчавацца і дагледзець прыгажосць і г.д. Маладыя дзяўчаты, вучаніцы пачатковай і сельскагаспадарчай школ, ахвотна займаюцца ў гуртку „Маладая гаспадыня“. Ім вельмі карысна навучыцца як карыстацца сучасным механізаваным кухонным і дамашнім абсталяваннем. З асяродка найбольш карыстае гурток вясковых гаспадыняў у Кляшчэлях (старшыня яго Софія Згет).

У чэрвені гэтага года арганізавалі курс гатавання ў вёсцы Елянка, у якім актыўна ўдзельнічала 16 жанчын. Тут добра працуе КГВ, які ўзначальвае Вольга Голуб. Аб ім мы нядаўна пісалі („Ніва“ № 22 ад 1 чэрвеня 1980 года). **(яц)**

## М. Шаховіч. З народных гаворак

**вэрстоўнік,** -а, — мужч. — паказальнік напрамку і адлегласці ад адной мясцовасці да другой. Нэ было вэрстоўніка і мы нэ знали як дойті до Масева. Вэрстоўнікі то былі, але коб росчытаті, то нэ росчытаеш. Мы сідіэлі пуд вэрстоўніком і чэкалі на рэшту.

**грудок,** -а, мужч. — узгорак на дарозе. А што, з грудка лёгко, вуоз сам біжыт. Такая паскудна дорога, то пуд грудок, то з грудка. Уважай, бо за грудком нічога нэ відно.

**кабітка,** -і, жан. — скрынка, якую клалі на санкі. Посядалі ў кабітку і пойехалі. Як куонь рвонуў, то так і прыкрыліся кабіткою. Заходжу по кабітку, а ў кабітці курка гніздо зробіла.

**наўчваль** — хуткі бег каня. Мусіт штось сталось, бо Грышка просто наўчваль гнаўся. То так пэр наўчваль, што просто куонь зэмліэ нэ дотыкаўся.

**рубэль,** -я, мужч. — прылада да звозкі сена. Гэта доўгі тоўсты друк, якім прыціскалі ад верху накладзенае на фуру сена. Біжы прытягні рубэль. Гліді коб я тэбэ часом рублём нэ ўдырыў.

**трушок,** -а, мужч. — прыспешаны крок каня. І так проз ціэлу дорогу, куонь трушком, а мы говорымо собіэ. Оно нэ жэні коня наўчваль, трушком хай біжыт.

*Пуціска, гміна Гайнаўка*

## Этнаграфічнае акенца



*Драўляная кампазіцыя на шчыце сялянскага дома ў вёсцы Войнаўка гм. Дубічы Царкоўныя. Работа майстра з суседняй вёскі Грабавец тае ж гміны каля 1950 года. Фота М. Гайдука.*

## АДГАЛОСКІ

### ВАША РАЦЫЯ, ДЗЯДЗЬКА КВАС

З прыемнасцю прачытаў я палоску Дзядзькі Кваса п.з. „Якія мы людзі“. Кожны сказ на вагу золата.

Усе мы, старэйшыя, бачым, што побач з добрым мяжуе шмат дрэннага: многа людзей фальшывых, гультаёў, жулікаў. Каб направіць сучаснае пакаленне, Дзядзька Квас раіць сачыць за выхаваннем. А чаго не даказаў ён, даказаў пад палоскаю мастак.

Так, так! Такое было нашае выхаванне. І хоць у хлопчыка на малюнку на каленках латка (мо дзеля моды?), у мяне нагавіцы няраз пэнкалі ад пастронка ці дзягі, сілу выхаўчую якіх і прызнаваў мой, добрай памяці, нябожчык бацька.

Ці быў я аж такі дрэнны, што гэткім спосабам трэба было мяне выхоўваць? Не! Па-першае, на іншае выхаванне нашы бацькі не мелі часу. Па-другое, яны так былі навучаны. Іх таксама выхоўвалі бацькі.

Я ўдзячны свайму бацьку. Успамінаю яго з вялікай пашанай. Няважна хто якія прымяняў метады, важна тое, што ён дасягнуў сваёй мэты — даў грамадскасці Чалавека. Без сораму прызнаюся, што і я ў выхаванні сваіх дзяцей прымяняў такія самыя метады. Цяпер ганаруся сваімі дзяцьмі.

Калісь чытаў я ў „Маланцы“: „Дзядзька пытае малога Янку: Скажы, Янка, хто цябе больш б'е, бацька ці маці? Янка: — Той, хто мае час“. Так было сапраўды.

Сем'і былі многадзетныя. Калі ў адсутнасці бацькоў дзеці зрабілі якую шкоду, не выдавала адно другога, бо ведалі, што дастануць усе. Цяжкасць пакарання залежала ад таго, ці бацька меў многа часу і ці не быў змучаны.

Ці не адбівалася такое выхаванне на здароў'і і псіхіцы дзяцей? Над гэтым ніхто не задумоўваўся. Дзеля заспакаення сумлення хадзіла пагаворка, што месца бітае бацькамі не гарыць у пекле.

У школе ніхто не забараняў настаўніку цягаць дзіцё за вушы ці паставіць на грэчцы на калені. І лінейкаю мог, колькі спадабалася, нашпарыць вучня па лапах. Пакаранае ў школе дзіцё бацькам не скардзілася, каб тыя ад сябе не далажылі. Такое было калісь выхаванне.

Я ні Макарэнка, ні Корчак, ані Сухамлінскі. Не думаю навучаць каго-кольвек, як мае выхоўваць дзяцей, але лічу, што ў выхаванні не зашкодзіць „моцная рука“. Гэта не значыць, што я за цялесныя пакаранні, але дзяцей трэба трымаць коратка, не распускаць.

Сучаснае пакаленне выхоўваецца вельмі асцярожна, а метады некаторых бацькоў мяжуюць з абсурдам. Настаўнік не цёгае вучня за вушы, пазбягае і іншых пакаранняў, баіцца канфліктаў з бацькамі і пракуратурай. Моладзі ад наймалодшых год створаны такія магчымасці адукацыі, аб якіх у наш час наймацнейшы розум не мог нават марыць. Даказана таксама, што і без цялесных пакаранняў можна добра выхаваць. І ўсё было б вельмі добра, калі б у медаля не было двух бакоў.

І вось другі бок медаля. Наша высокаадукаваная, культурная і, сапраўды, добрая моладзь у вялікім працэнце атручана ядам алкагалізму. Усе мы ў гэтым вінаватыя. Сем'і маладзетныя, адно, двое, а з „апошняга вока ў лобе“ не патрабуецца многа. Дастатак стварае тое, што з малых год дзеці прывучаюцца да грошай. І хоць у школе ёсць кава і булачка, дзіця атрымлівае ад бацькі грошы на „свае патрэбы“. На перапынку дзеці бягуць у краму і п'юць ліманад на ўзор старэйшых, што п'юць піва. На заканчэнне года складчына на бутэльку віна, каб бацька і настаўнік не ведалі. У старэйшых класах з гэтакай нагоды каштуецца ўжо (зноў тайна) і гарэлка. У вучня сярэдняй школы больш урачыстасцей і ён часцей сустракаецца з гэтай „сяброўкай“. І так памалу.

Моцныя індывідуальнасці і больш устойлівыя добра ўладкоўваюць сабе жыццё і жывуць на радасць бацькам і дзеля дабра грамадскасці. Слабыя па нахіленай плоскасці коцяцца ўніз. Вынік вядомы. **(р)**

Сапраўды, у глыбокім катлаване, запоўненым вадой, ля сцяны дота ляжала нейкая заіржавелая жалезіна. Міхаіл Млынарчук схіліўся над ёю.

— Не чапай! — папярэдзіў яго даўнейшы воін. — Яна можа ўзарвацца...

Ён нейк міжвольна пачасаў рукой патыліцу, быццам нечакана пачуў пякучы боль ад гранатных асколкаў. Я падышоў да Млынарчука і мы разам, з належнай асцярожнасцю, узіраліся ў гэтую карычневую смерць, якая тут праляжала амаль сорак гадоў. Колькі такіх цацак валялася па нашых палях і лясах! Успомніліся мне дурнаватыя гульні з патронамі, гранатамі і снарадамі. Прыгануў я сваіх сяброў, якія асталіся інвалідамі ў выніку гэтых гульняў. І адчуў я страх.

— Вядзіце, калі ласка, да іншых дотаў, — папрасіў я Пятра Плаксея.

— Узяў я лейтэнанта Шыбакова на плечы, — пачаў расказваць Пётр Пятровіч, — і пацягнуў вунь туды, — паказаў ён у бок лесу, які распасціраўся за полем з бульбай і аўсом. — Там, за нашым ваенным гарадком, за маёй кухняй, знаходзіўся дот „Каменданцкі“. Іван Шыбакоў называе яго „Чорным“, а мы, салдаты, іменавалі яго проста „каменданцкі“, бо ў ім найчасцей знаходзіўся камандзір нашай роты.

Мы ўвайшлі ў сасновы лес. Пад нагамі затрашчалі сухія галінкі.

— Але ж гэты лес вырас! — усклікнуў Пятро Плаксей.

І ён пачаў азірацца.

— Недзе на гэтым месцы, — гаварыў, — знаходзілася наша сталовая, а побач яе кухня і канюшня. Былі гэта драўляныя будынкі, глыбока закапаныя ў зямлі.

Усё аднак зарасло зараз лесам. І толькі малапрыкметныя бугаркі ды плыткія ямы нагадваюць, што калісьці нешта тут было, што ў гэтым месцы штосьці рабіў чалавек. Пятро Плаксей кружыў сярод соснаў, як па знаёмых закутках.

— Так, гэта тут... — ціха апавясціў нам і зноў бачу, як яго твар дрыжыць ад наплываючых успамінаў.

— Дзе быў ваш акоп, у якім вы правялі першую ноч вайны? — пытаю яго, каб адагнаць змрочныя думкі. Пятро Плаксей яшчэ хвіліну кружыць сярод дрэў і спыняецца ля плыценькай ямы, што зарасла соснамі і мохам.

— Хіба гэта тут, — гаворыць няўпэўнена.

— А што тут цяпер знойдзеш! — адзываецца Міхаіл Млынарчук. — То ж людзі ўсё расцягнулі. Я сам сюды прыязджаў з бацькам за цэментнымі калодзежнымі кругамі. А жыхары Слохаў колькі матэрыялу адсюль узялі! То ж немцы ўсё ў іх спалілі. Людзі сядзелі пад голым небам. Трэба было з чагосьці будаваць...

(Працяг на стар. 6)

## У ЛЕТНІХ ДЗЯЦІНЦАХ

У Кляшчэлеўскай гміне працуюць два летнія дзяцінцы: у зборнай гміннай школе ў Кляшчэлях і ў школе ў Дашах. Наведалі мы вясковы дзяцінец у Кляшчэлях. Тут 60 малалетак адпачывае пад апекай Надзеі Малмышка (кіраўнічка дзяцінца), Крыстыны Адамчык і Іяланты Ваўжыновіч (яны абедзве выхавацелькі). Дзеці маюць асобную пляцоўку для забаў і іграў, якую яшчэ ў мінулым годзе абсталяваў мясцовы СКР, розныя цацкі і кніжачкі (іх пазычылі з прадшколля і школы). Абеды ў школьнай сталовай, якая вельмі добра абсталявана і абяспечана харчовымі прадуктамі. Прыемна ў святліцы: тут дастасаваныя да ўзросту дзяцей столікі і крэслы, прыгожыя дэкарацыі, зробленыя ўласнаручна выхавацелькамі (вось хаця б прыгожая вялікая эмблема сёлетняй Алімпіяды ў Маскве і насценгазеты). Зал прасторны, чысты, прытульны. Усе памяшканні дзяцінца былі загадзя адноўлены і памаляваны. Прыемна праводзяць тут час дзеці.

У Дашах кожны дзень ад 7 гадзіны раніцы да 16 пасля абеду з дзецьмі займаюцца Альжбета Маркевіч і Галіна Шэвяк.

Радаснае лета ў дзяцей. **(ця)**

## Куток практычных ведаў

### ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

### ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

#### САЛАТА З МАЛАДОЙ ГАРОДНІНЫ

Бярэм 3—4 морквы, адну калярэпку, 1 пору, лыжачку пасечанай зялёнай пятрушкі, 2—3 валошскія арэхі, лыжачку сметанковага тваражку, 2—3 лыжкі малака, соль, цукар па смаку, крыху лімоннага соку.

Памытую і ачышчаную гародніну нарэзаць дробнай косткай або сцерці на бурачанай тарцы. Можна таксама нарэзаць тоненькімі кружочкамі. Спырснуць лімонным сокам. Тваражок расцерці з малаком, дадаць па смаку соль і цукар, змяшаць з гароднінай і паловай зялёнай пятрушкі. Палажыць салату ў місачку, пасыпаць пасечанай зялёнай пятрушкай і пасечанымі валошскімі арэхамі.

#### ЗЯЛЕНАЯ САЛАТА

Узяць некалькі лісткоў салаты, 2 маладыя цыбулькі, 1/4 свежага агурка, 1 крутное яечка, 2—3 лыжкі алею, крыху лімоннага соку і солі.

Старанна памытыя лісткі салаты, абабраны агурок і цыбулю парэзаць вельмі дробна. Спырснуць лімонным сокам. Бялок яечка пасячы і дадаць да салаты. Жаўток расцерці дакладна з соллю, алеем і лімонным сокам. Вымяшаць з гароднінай, палажыць у місачку.

#### СУП З МАЛАДОЙ ГАРОДНІНЫ

Бярэм малы пучок маладой морквы, адну калярэпку, жменю зялёнага гарошку, 1—2 маладыя поры, 1 малы калафёр, пару лыжак найдрабнейшага макарону, лыжачку мукі, лыжачку масла, 1 жаўток, 2 лыжачкі малака, соль, пасечаны ўкроп.

Старанна памытую гародніну нарэзаць, заліць у каструлі літрам гарачай вады, закіпяціць пад крышкай, дадаць соль, усыпаць макарон, варыць 15 мінут. Улажыць у гарачы суп плоскую лыжачку мукі, расцертую з такой самай колькасцю масла, і закіпяціць, пасля чаго дадаць жаўток, расцерты з малаком, і яшчэ хвіліну трымаць на малым агні, не дапускаючы да таго, каб суп закіпеў. Адставіўшы суп з агню, усыпаць дробна пасечаны ўкроп.

Мая сяброўка кажа, што яе дзеці ядуць гародніну проста з агароду. Добра, калі маюць апетыт і не забудуцца памыць яе перад гэтым! Горш, аднак, з дзецьмі-няядкамі, і тады якраз прыгадзяцца нашы рэцэпты з фантазіяй.

**Гаспадыня**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Астроне, ты ўжо разгадаў вельмі трапна мой сон, разгадай і другі. Прысніўся мне нейкі дзіўны сон. Працую я на невялікім прадпрыемстве. Нямнога тут працаўнікоў. І быццам бы адну працаўніцу вельмі ўсе не любяць і пастанавілі яе забіць. Але як? І жыўцом вырашылі закапаць у яму. Яма была квадратная, і туды яе мелі ўкінуць без труны. Усе ведаюць аб гэтым, але яна сама нічога не ведае. І я ёй сказала, толькі кажу, ты не нервуйся, спакойна, можа яшчэ ўдасца нейк пазбегнуць гэтага. А далей ужо ў пакоі тая ж сяброўка рыхтуе прыём, які меў быць вельмі гучны. Але яшчэ нічога не відаць, і ўваходзіць у пакой кіраўнік. І як бы з прэтэнзіяй кажа: „Дык што, будзе ўрэшце гэты прыём?“ А я яму кажу: „Будзе, толькі не гучны, але звычайны, будуць бутэрброды“. Тут і прачнулася.

**Валя**

**Валя!** Твой сон абазначае для цябе нейкі сум, нейкае раскаянне, бо ведай, што забіваць кагосьці, а нават і жывёлу ці насякомае, абазначае для чалавека нядобрае. Адразу відаць, што нешта саграшыў. Ты ж хацела разам з усімі закапаць жыўцом у яму сваю сяброўку, і не выратуе цябе нават тое, што, здрадзіўшы таварышаў па рабоце, ты сказала той сяброўцы аб гэтым. Той прыём, які вы рыхтавалі (ў гадзінах працы, напэўна), абазначае для вас нейкую непрыемнасць, нягледзячы на тое, што вашаму кіраўніку ўва сне было вельмі спешна да гарэлкі.

**Астрон**

## ФАЛЬКЛОР

## ЖАРТОЎНАЯ




*Ой, ішоў я до дівчыны тэмненькоі ночы —*
*сідіт гуска над водою, вырачыўшы очы,*
*сідіт гуска над водою, вырачыўшы очы.*
*Я на йіе: „Гыля-гыля!“, аж вона прысела,*
*коб нэ тая дівчынонька, была б мэнэ з'ела,*
*коб нэ тая дівчынонька, была б мэнэ з'ела.*
*А я й, молодэнькі, скоро догадаўсе:*
*Чапу-чапу па-за хлеўем — у кропіву сховаўсе,*
*чапу-чапу па-за хлеўем — у кропіву сховаўсе.*
*Выліезшы з кропівы, узяўсе под бокі:*
*— Дівіетэсе, молодіцы, які я высокі!*
*Дівіетэсе, молодіцы, які я высокі!*
*І высокі, і хорошы, і такого стану:*
*дэ хілюсе, дэ вэрнусе — усюды я прыстану,*
*дэ хілюсе, дэ вэрнусе — усюды я прыстану.*

Ад Раісы Чэрнякевіч, 1896 г. нараджэння, вёска Макаўка гм. Нарва, запісаў 11 чэрвена 1980 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

(Працяг са стар. 5)

## ЗАРАСЛО ЎСЁ ЛЕСАМ...

Мы стаялі крыху над катлаванам даўнейшай кухні, курылі і маўчалі. Пасля адазваўся Пятро Плаксей.

— А ведаеце пра што я зараз успомніў? — І, не чакаючы нашага адказу, ён прадоўжыў павесялеўшым голасам: — Успомніў я, як да мяне на кухню забягалі дзеці, асабліва зімой з саракавога на сорак першы гады. У мяне былі сапраўдныя лыжы. Вось і хацелася сялянскім дзецюкам пакатацца на іх. Прыбягуць і просяць: *„Дзядзька, дазвольце...“* А тут лес крутым абрывам пераходзіць у надбужную даліну. Значыць, ёсць дзе выпрабаваць свой спрыт... Ой, як цешыліся тады гэтыя дзецюкі!

— А як вы папалі ў кухары? — пацікавіўся я.

— Зусім выпадкова, — кажа Пятро Плаксей. — У сваёй роднай вёсцы Антонаўка на Украіне я працаваў трактарыстам. Быў сіратой. Маці занята была ў полі, часта даводзілася самому рыхтаваць страву. Трактарыстам быў таксама і ў арміі. Цягаў велізарную гармату з даўжэзным ствалом. Калі трэба было яе пачысціць, дык трос цягнулі 12 чалавек. На фінскім фронце адмарозіў я рукі і пасля лячэння папаў у 17 кулямётны батальён, ужо пехацінцам. Ішлі мы ў Заходнюю Беларусь пяшком і па дарозе зламалася каляска ад кухні. Я яе наладзіў і кухар папрасіў у камандавання, каб яно дазволіла мне пастаянна служыць пры кухні. Пазней і гэтага кухара недзе забралі, а мне прысвоілі званне старшыны фуражна-гаспадарчай службы. І так стаў я ваенным кухарам 3-ай роты 17-ага асобага кулямётнага батальёна.

І тады я нібы жартам спытаў:

— Гэта сюды, на кухню, заглядала Любоў Емяльянаўна?

Даўнейшы кухар паглядзеў на мяне нейк загневана і заявіў:

— А з гэтага няма чаго жартаваць. Мяне і Любку спалучала чыстае юнацкае пачуццё, — і ён, паглядзеўшы на Міхаіла Млынарчука, дабавіў: — Даруй мне, Міша, маю шчырасць. Гэта была сапраўдная прыгажуня.

— А што ж я маю табе дараваць! — адказаў яму муж Любы. — То ж і мне яна падабалася... І я хіба найлепш ведаю, якой узяў у жонкі. Нічога, браце, ты мне не вінаваты... Інакш не запрасіў бы я цябе ў госці...

І прыемна было мне глядзець на гэтых пастарэлых ужо мужчын, якіх спалучыла калісьці адна вясковая прыгажуня.

Пайшлі ў дот „Чорны“.

Сляды гісторыі зараслі аднак лесам. І не так лёгка было нам адшукаць гэты дот. Аб гэтым аднак ужо праз тыдзень.

*Віктар Рудчык*



*Шчырая дружба засталася непарушнай. Сябры на панадворку ў Млынарчукоў. Справа: Люба Млынарчук, Ніна Аляксееўна — госць з горада Перм, яе муж Генадзь Буркоў — журналіст, які таксама цікавіцца лёсам Пятра і Любы, Пётр Плаксей і Міхаіл Млынарчук. Сустрэліся яны ў ліпені гэтага года.*

## СЕРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, нядаўна мая сястра выйшла замуж. І ў яе на вяселлі я пазнаёмілася з Міхасём. Ён быў старшым сватам у майго цяперашняга швагра. У час вяселля мы разам гулялі і ён казаў, што я яму вельмі падабаюся. Калі я ад'язджала, ён абяцаў, што напіша мне пісьмо. Так і было. Хутка атрымала ліст. Міхась пісаў, што сумуе і просіць, каб у нядзелю прыехала я да сястры, а ён па-суседству з ёю жыве, то прыдзе. Гэта ў малым горадзе, недалёка ад Беластока. Напісаў, якім аўтобусам каб я прыехала, дык ён выйдзе на спатканне. Толькі просіць, каб я паведаміла, ці згаджаюся з яго прапановай. Я хутка адпісала, што так, прыеду. Мне таксама ўжо хацелася яго ўбачыць, дык рыхтавалася як магла, сукенку новую пашыла, ну і ў суботу ўжо ўсё падрыхтавала на выезд. Аж тут неспадзеўка. Позным вечарам прыехала сяброўка з мужам. Мы разам вучыліся ў сярэдняй школе. Жывуць яны ў Варшаве, ехалі да яе бацькоў на вёску і спазніліся на аўтобус. Дык прыйшлі прасіць, каб пераначаваць. Я іх сардэчна прывітала, сядзелі да позняй ночы. Даўно не бачыліся, дык было аб чым гаварыць. Але пра тое, што я збіралася ехаць у нядзелю рана да сястры, я не адважылася сяброўцы сказаць. Яны мелі аўтобус з раніцы і калі б тым паехалі, я б таксама яшчэ паспела паехаць. Але яны не спяшаліся і паехалі пасля поўдня. І так я не паехала да сястры. Нічога Міхасю не напісала. Прайшло ўжо два тыдні з таго часу і ад Міхася я таксама ніякай весткі не атрымала. І вось учора атрымала ліст ад сястры. Яна мяне лае за тое, што я так зрабіла — абяцала і не прыехала. Міхась і на прыпынак хадзіў і ў яе пытаўся, што сталася. Кажа, што вельмі знерваваўся, што я так зрабіла. Я вельмі гэта перажываю, і не ведаю, як справу наладзіць. Памажы, Сэрцайка.

Аля з Беластока

**Аля!** Ты дапусціла дзве памылкі і ў выніку гэтага твае клопаты. Першая: не было б нетактоўна сказаць сяброўцы, што назаўтра ты маеш запланаваны выезд. І яна з мужам напэўна паехалі б ранням аўтобусам. Другая: калі ўжо не паехала, дык трэба было хутка напісаць пісьмо да Мішы і высніць, што было прычынай. Нічога дзіўнага, што Міша пакрыўдзіўся на цябе. У такіх абставінах ён падумаў, што ты, як кажуць, „зрабіла яго ў дурня“. Дык не адцягвай справы, а напішы ўсё цяпер — лепш позна, чым зусім.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

**ПЫТАННЕ:** Н. закантрактаваў плантацыю чорных парэчак. З ГС атрымаў пасадачны матэрыял. Пасадзіў і даглядаў згодна з павучэннямі арганома. Аднак парэчкі не ўдаліся, пладоў амаль не даюць. Агранам сцвердзіў, што гэты гатунак не прыстасаваны да мясцовых кліматычных і глебавых умоў. Н. патрабуе ад ГС кампенсацыі, але ГС тлумачыцца тым, што гэткі пасадачны матэрыял атрымала з цэнтралі і не можа за гэта адказваць. Ці можа Н. патрабаваць кампенсацыі, а калі так, то ад каго?

**АДКАЗ:** Даўжнік адказвае за дзейнасць і бяздзейнасць асоб, з дапамогай якіх выконвае абавязацельства, таксама, як за сваю дзейнасць або бяздзейнасць. У нашым прыкладзе ГС мог бы звольніцца ад адказнасці за страту Н., калі б даказаў, што неадпаведнае выкананне абавязку дастаўкі добрага пасадачнага матэрыялу выклікана акалічнасцямі, за якія ён не адказвае. Паколькі ГС, як вышэй сказана, адказвае за асобы, з дапамогай якіх выканаў сваё абавязацельства, не можа ён звольніцца ад адказнасці за неадпаведны пасадачны матэрыял, дастаўлены Н. ГС абавязаны дакладна праверыць, ці матэрыял, які ён дастаўляе селяніну, адпаведны, а калі з віны асобы ці ўстановы, якая даставіла матэрыял, аказаўся ён неадпаведны, то можа пасля кампенсацыі селяніну шкоды патрабаваць ад дастаўшчыка рэгрэсу.

